

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№22 (151) САКАВІК 2013 ГОДА

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ЗА МЕСЯЦ ПАМЕРЛА ЎТРАЯ БОЛЬШ,ЧЫМ НАРАДЗІЛАСЯ

**Дэмаграфічны соцыум – ключавы элемент развіцця раёна. На жаль, чалавечага капіталу на Шумiлiншчыне бракуе. Смяротнасць па-ранейшаму намнога апярэджвае нараджальнасць. За люты 2013 года памерла людзей у тры разы больш, чым нарадзілася. Адпаведна ў студзені памерлых было больш у два разы. У два разы павялічылася і колькасць разводаў.**

Рост нараджальнасці, зніжэнне смяротнасці, павышэнне працяглосці жыцця – ключавая задача для ўлады. Усе гэтыя паняцці звязаны паміж сабой і ў канчатковым выніку зыходзяць да дэмаграфічнай бяспекі, якая так важна цяпер і для раёна, і для краіны ў цэлым. Аднак колькі пра яе не пісалі б, колькі не вялі дэбатаў, не складалі планаў па нараджальнасці – сітуацыя не змяніцца. Зараз дэмаграфічная статыстыка ідзе як адмоўная інфармацыя. Няма сумневу, што такія негатыўныя дэмаграфічныя з'явы, як разводы, высокая смяротнасць насельніцтва ў працаздольным узросце, або самагубствы – ёсць спадчына старога савецкага рэжыму, таму па меры таго, як грамадства будзе перамагаць савецкія "стандарты жыцця", гэтыя атавізмы самі па сабе знікнуць.

Па Віцебскай вобласці назіраюцца самыя ўстойлівыя і высокія тэндэнцыі скарачэння насельніцтва ў рэспубліцы. Паводле апошніх дадзеных, толькі за студзень гэтага года натуральнае змяншэнне насельніцтва Віцебшчыны склала 658 чалавек, што значна больш адзначанай на другім месцы Гомельшчыны. Па нашаму раёну насельніцтва скарацілася за першы месяц 2012 года на 25 чалавек, у мінулым годзе за адпаведны перыяд было 18. Прычым каэфіцыент натуральнага руху насельніцтва па-ранейшаму застаецца самым адмоўным у краіне -6,2. Як бачна, на цэлую адзінку перавышае Магілёўшчыну -5,2. Зараз на першае сакавіка колькасць насельніцтва ў Шумілінскім раёне складае 19 тысяч 70 чалавек.

Неспрыяльная сітуацыя складваецца і ў шумілінскіх сем'ях. У студзені ў нашым раёне з'явілася на свет 21 (85% к адпаведнаму перыяду мінулага года) немаўляці, а ў лютым яшчэ 12. А за першыя два месяцы пайшлі з жыцця 76 чалавек. У студзені было скасавана 8 шлюбаў, у лютым распалася яшчэ 8 (у 2012 годзе ў студзені было 6) і 13 сямейным парам вызначылі тэрмін на прымірэнне. Ва ўсіх выпадках ініцыятарамі разводаў былі жанчыны. Судом пазбаўлены бацькоўскіх правоў яшчэ дзве нядбайныя маці.

Па ўсяму відаць, што ў бліжэйшым будучым паляпшэнне дэмаграфічных паказчыкаў не чакаецца. Аднак далёка не ўсё залежыць і ад улады, калі мы гаворым аб здароўі нацыі, аб паспяховай дэмаграфіі. Тут больш уплываюць другія прычыны, прычым істотна. І ляжаць яны ў плоскасці псіхалогіі. Кожны з нас павінен добра ўсвядоміць, што наша здароўе – гэта не толькі асабістае пытанне, але і дзяржаўнае, і аб сваім здароўі трэба клапаціцца пастаянна. Бо будучае нацыі залежыць ад таго, як хутка мы пераадолеем бар'ер, калі нараджальнасць перавысіць смяротнасць.

**Аляксандр Шчамлёў**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ЁСЦЬ АДСТАВАННЕ АД ПРАГНОЗНЫХ ПАКАЗЧЫКАЎ

**Адбылася чарговая сесія раённага Савета дэпутатаў, на якой "народныя выбраннікі" абмеркавалі выкананне асноўных параметраў сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна за 2012 год. На сесію былі запрошаны члены раённага выканаўчага камітэта, старшыні пасялковага і сельскіх Саветаў дэпутатаў, кіраўнікі СВК, прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, дэпутаты райсавета.**

Са справаздачай аб рабоце народнай гаспадаркі ў 2012 годзе выступіла старшыня райсавета І. М Новікава. Ірына Мікалаеўна падрабязна прааналізавала стан спраў ва ўсіх сферах жыццядзейнасці раёна, а таксама асноўныя мэтавыя паказчыкі сацыяльна-эканамічнага развіцця. Афіцыйныя даныя сведчаць аб тым, што выканаць, аднак, планавыя заданні ўдалося далёка не ўсім. Дасягнуты станоўчыя вынікі па 11 паказчыках з 17. Аднак нягледзячы на прынятыя меры, прадпрыемствы і арганізацыі раёна па-ранейшаму застаюцца нерэнтабельнымі. Гэта датычыцца перш за ўсё работы прамысловага і сельскагаспадарчага сектара –тых прадпрыемстваў, якія штогод падтрымлівае дзяржава за кошт бюджэтных сродкаў.

Занепакоенасць кіраўніцтва раёна выклікаюць негатыўныя тэндэнцыі ў дэмаграфічнай сітуацыі, а таксама рост колькасці сацыяльна небяспечных сем'яў. Больш за тое, нягледзячы на высілкі розных зацікаўленых службаў, нядбайныя бацькі ніяк не становяцца на шлях выпраўлення. У рэшце рэшт пакутуюць дзеці: на сённяшні дзень у сацыяльна небяспечным становішчы аказаліся 219 дзяцей, якія пражываюць у 131 сям'і. Да таго ж эфектыўнасць працы з гэтак званымі абавязанымі асобамі па-ранейшаму застаецца на нізкім узроўні. Сказаць па праўдзе, расходы дзяржавы на ўтрыманне дзяцей былі кампенсіраваны нядбайнымі бацькамі ўсяго на 55%.

Немалая ўвага была нададзена навядзенню парадку на зямлі. У раёне пастаянна праводзяцца месячнікі па добраўпарадкаванню і навядзенню парадку ва ўсіх населеных пунктах. І тут трэба не толькі ведаць праблемы людзей, але і непасрэдна дапамагаць вырашаць іх. Але ў той жа час людзі павінны пазбавіцца ўтрыманскай псіхалогіі, ведаць не толькі свае правы, але і грамадзянскія абавязкі. Таму жыхары весак і пасёлкаў абавязаны навесці парадак на сваім прысядзібным участку, каля хаты, на вуліцах. Каб прыбраць тэрыторыю, пасадзіць кветнік, адрамантаваць плот не патрэбны значныя фінансавыя сродкі. У гэтым і ёсць наша культура. Нядрэнна было б, каб і дзеці прыехалі да састарэлых бацькоў, не толькі адведалі, але і дапамаглі прыбраць родны кут, адкуль некалі выйшлі ў свет.

Прынамсі, з настальгіяй успамінаюць пенсіянеры, як некалі поўнілася вучнямі школа, пастаяннымі наведвальнікамі – мясцовы клуб, не пуставалі і ФАП, іншыя сацыяльна-культурныя, бытавыя аб'екты на цэнтральнай сялібе. Аднак вёска за апошні час прыкметна памізарнела, абязлюдзела. Але мясцовым жыхарам усё роўна хочацца, каб усе ўстановы па-ранейшаму функцыянавалі.

У рабоце сесіі прыняў удзел старшыня абласнога савета дэпутатаў Аляксандр Ацясаў. Як вядома, на вёсках пакрысе зачыняюцца комплексныя прыёмныя пункты, філіялы Беларусбанка, магазіны і іншыя аддзяленні інфраструктуры, бо яны не даюць ніякага прыбытку. Вёска старэе і вымірае. Аднак такога не павінна быць – перакананы кіраўнік аблсавета. Да прыкладу, у аграгарадку Амбросавічы недапушчальна, каб мясцовыя жыхары засталіся без банкамата, інакш навошта тады было калгаснікам пераводзіць зарплату на банкаўскую картку? Са сваім бачаннем дасягнутага і праблем выступілі перад прысутнымі іншыя дэпутаты і кіраўнікі сельвыканкамаў. Па абмеркаваных пытаннях будуць прыняты рашэнні.

**Алесь Шумскі.**

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## РАЗЛІЧВАЦЬ НА ЛЕПШЫЯ ВЫНІКІ ПАКУЛЬ НЕ ДАВОДЗІЦЦА

**Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў асноўныя сацыяльна-эканамічныя паказчыкі рэгіёнаў Беларусі за студзень - люты 2013 года. На Шумiлiншчыне амаль усе яны горш аналагічных дадзеных за студзень-люты мінулага года.**

Так, на сённяшні дзень фінансавае становішча арганізацый раёна значна пагоршылася. Калі ў лютым 2012 года быў невялікі прыбытак у 205 мільёнаў рублёў, то ў 2013 за два месяцы бягучага года страты саставілі ўжо -964 мільёны рублёў. Адпаведна ўдзельная вага стратных арганізацый павялічылася з 14,3% да 19,0 %. Усяго па Віцебскай вобласці колькасць стратных прадпрыемстваў павялічылася са студзеня 2012 года – з 89 адзінак да 164 у 2013 годзе.

Аднак спрацавалі за першыя два месяцы на прадпрыемствах Шумiлiншчыны няўдала. Да прыкладу, пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасць арганізацый раёна вырасла з 2,7 мільярдаў рублёў у 2012 годзе да 9,2 мільярдаў рублёў ў 2013 годзе. У той час крэдыторская павялічылася адпаведна з 206 939 млн. руб. да 282 544 млн. руб.

Пры гэтым пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць па падатках, зборах і сацыяльнаму страхаванню павялічылася больш, чым у тры разы: з 2,753 млн. рублёў мінулага перыяду да 9, 243 млн. рублёў. Несвоечасова разлічваюцца прадпрыемствы па крэдытам і пазыкам – пратэрмінаваная запазычанасць у лютым дасягнула да 27 332 млн. руб (у лютым 2012 года было 21 136 млн. руб.).

Адметна тое, што намінальная сярэдняя заработная плата ў раёне, налічаная за студзень гэтага года склала 2 мільёны 994 тысячы рублёў. Што безумоўна дало магчымасць раёну падняцца на адно месца вышэй з перадапошняга месца ў спісе рэгіёнаў вобласці. Ніжэй толькі Браслаўскі і Шаркаўшчынскі раёны. Дарэчы, сярэдняя заработная плата на Віцебшчыне – 3 мільёны 882 тыс. руб. Як бачна, мінулагоднія абяцанні ўладаў пра заробкі ў 500 долараў і ў гэтым годзе засталіся на паперы.

**С. Горкі.**

ДУМАЙ ШТО ПІШАШ

## ЗА АБРАЗУ ДА АДКАЗНАСЦІ

**У канцы снежня 2012 г. 39-гадовы жыхар абласнога цэнтра пакінуў нецэнзурнае меркаванне пра асобу знаёмай яму 20-гадовай дзяўчыны на яе старонцы ў сацыяльнай сетцы УКантакце.**

У адказ дзяўчына зрабіла раздрукоўку старонкі і напісала на крыўдзіцеля заяву ў праваахоўныя органы. Пры правядзенні першапачатковай праверкі міліцыі справа аб адміністрацыйным правапарушэнні была спынена, аднак затым у ходзе пракурорскага нагляду адноўлена. Факт абразы пацвердзіўся, у тым ліку самім крыўдзіцелем.

За абразу асобы мужчына прыцягнуты да адказнасці: на яго накладзены накладзены штрафу памеры 500 тыс. рублёў па арт. 9.3 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Беларусі.

**Ян Сведка.**

## Аб'ява

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.

*********

Рэдакцыя « Світанка » змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.

*********

Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».

*********

Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html , што у каталогу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

# ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ З НАСЕЛЬНІЦТВАМ

**Днямі «прамую лінію» і прыём грамадзян па асабістых пытаннях на Шумілiншчыне праводзіў старшыня абласнога савета Аляксандр Ацясаў. Варта адзначыць, што ўсе звароты грамадзян не закранулі істотных праблем і пасля вывучэння могуць быць вырашаны ў рабочым парадку.**

Безумоўна, інфармаванасць аб праблемах, інтарэсах жыхароў раёна з'яўляецца важнай складаемай у дзейнасці мясцовай улады. А прыёмы грамадзян па асабістых пытаннях, прамыя тэлефонныя лініі – добра зарэкамендаваўшым метадам зваротнай сувязі з насельніцтвам.

Самы аператыўны спосаб звярнуцца да прадстаўнікоў улады з пэўным пытаннем – гэта пазваніць на прамую лінію. Першай на прыём да прадстаўніка абласной улады трапіла жыхарка райцэнтра. Жанчына скардзілася на невыносныя ўмовы пражывання ў доме барачнага тыпу па вуліцы Сіпко. У пакоях сыра, холадна і гніла. Жыллё знаходзіцца на балансе камунгасу, работнікі якога рамонт рабіць не спяшаюца. Выкліканы для высвятлення сітуацыі начальнік падраздзялення "Шумілінскае" А. Г. Шаршун растлумачыў, што новую грубку для ацяплення памяшкання зладзілі тры гады таму. У якасці апраўдання начальнік прывёў свой аргумент: печку пераграваліі кватэраздымшчыкі, таму яна развалілася раней тэрміну эксплуатацыі. Маўляў, у гаспадароў рукі ёсць, маглі б і самі затынкаваць шчыліны і трэшчыны. Ды і паводле графіка, капітальны рамонт ў гэтым годзе не запланаваны. Трэба пачакаць да лепшых часоў. Шчыра кажучы, жанчыну такі адказ начальніка не задаволіў, і яна прасіла кіраўніка аблсавета аб выдзяленні іншага сацыяльнага жылля з усімі зручнасцямі. Апроч таго, яе дачка з дзіцём стаяць у чарзе на жылплошчу, аднак зарэгістраваны аж 285 у спісе. Ім параілі лепш уладкавацца на працу ў вёску, машына даяркай на ферму. Але ад такой дапамогі грамадзянка рашуча адмахнулася, бо сама некалі працавала на цяжкой рабоце і дачцэ падобнага лёсу не жадае. На развітанне яна запатрабавала пісьмовы адказ – па усяму бачна, што "выбіваць" жылплошчу мае намер і далей.

На прамую лінію да кіраўніка аблсаветатэлефанавалі пенсіянеры – мясцовы саўгас "Мішнеўчы" не паклапаціўся аб пералічэнні грошай у Фонд сацыяльнай абароны, што паўплывала на памер пенсіі. Кіраўніцтву гаспадаркі было ўказана на ндыйныя адносіны да былых работнікаў. Былі званкі ад шумілінцаў бытавога характару. Адна жанчына ўвогуле звярнулася за кансультацыяй аб тым, як уладкаваць юнака ў кадэцкае вучылішча ў Лужасна. Давялося Аляксандру Ацясаву нагадаць жанчыне, што па-першае, у вучылішча прымаюць з 15 гадоў, а па-другое трэба яшчэ паспяхова здаць уступныя іспыты.

Відавочна, што выканкамам сельскіх Саветаў трэба больш працаваць на месцах і вырашаць праблемы грамадзян своечасова. Заўважана, што неабходна больш практыкаваць такія формы работы, як сходы грамадзян, падворны абходы. Тады будзе наладжана больш шчыльная сувязь "народ – улада" і многія дробязныя пытанні адпадуць. Натуральна, што і прамая лінія будзе разгружана ад нязначных пытанняў асабістай тэматыкі.

**С. Горкі.**

СОЦЫУМ

# КОНКУРС МАЛАДЫМ СПАДАБАЎСЯ

**На базе гаспадаркі "АграБаравінка" прайшоў конкурс прафесійнага майстэрства сярод заатэхнікаў і ветурачоў раёна. Упершыню на спаборніцтве сабраліся адзінаццаць маладых спецыялістаў з сямі гаспадарак раёна.**

Для кожнага ўдзельніка конкурса былі падрыхтаваны заданні адпаведнага профілю. Як спецыялісты аграпрамысловага комплексу, маладыя тэхнолагі павінны былі справіцца з пытаннямі па кармленню, дагляду і лячэнню жывёлы. Як падцвердзіў намеснік начальніка райсельгасхарчу А. Кузняцоў, многія работнікі неахвотна цікавяцца навейшымі дасягненнямі, слаба займаюцца самаадукацыяй і ўдасканальваннем тэхналогіі вырошчвання маладняку жывёлы. У ходзе мерапрыемства быў прадэманстраваны відэафільм. На заканчэнне журы падвяло вынікі – усе тры прызавых месцы занялі дзяўчаты, ветэрынарныя лекары Святлана Эсман, Вольга Багаева і Аляксандра Андрэева.

Якія магчымасці і перспектывы маладога спецыяліста зараз ў нашым раёне?

Не сакрэт,што павышэнне ўроўню жыцця насельніцтва напрамую залежыць ад кадраў. Але так ужо склалася, што сучасная моладзь больш імкнецца жыць у горадзе. А маладыя спецыялісты, якія прыехалі ў вёску па размеркаванні, часта не могуць дачакацца таго дня, калі возьмуць зваротны білет. Чаму ж у апошні час склалася такая тэндэнцыя? Прычыны, вядома, у кожнага свае, але асноўнымі, па меркаванні тых маладых, з якімі даводзілася абмяркоўваць гэтую тэму, з'яўляюцца жыллё без гарадскіх выгод, заработная плата, інфраструктура. Ніхто не будзе аспрэчваць, што для прыцягнення і замацавання маладых спецыялістаў на сяле неабходны комплекс мер сацыяльнага характару, у тым ліку і забеспячэнне іх добрымі жыллёвымі ўмовамі.

Як і ў папярэднія гады, раёну кожны год патрабуецца не менш 140 спецыялістаў. Практыка паказала, што найбольш востры кадравы голад адчувае аграпрамысловы комплекс раёна, дзе заўсёды не хапае ветэрынарных урачоў, аграномаў, заатэхнікаў, кіраўнікоў і спецыялістаў сярэдняга звяна, кадраў масавых прафесій. Хто будзе павышаць узровень жыцця насельніцтва ў рэгіёне, калі маладыя не толькі не едуць на работу ў сельгаспрадпрыемствы, але і не паступаюць у сельскагаспадарчыя ВНУ? Ніхто з выпускнікоў не жадае працаваць без выхадных, у складаных умовах ды яшчэ за невялікія заробкі…

**С. Горкі.**

МЯСЦОВАЕ САМАКІРАВАННЕ

# БУДНІ СЕЛЬСАВЕТА

**За апошні час значна палепшылася матэрыяльна-тэхнічная база Дабейскага сельсавета. Акрамя працоўных кабінетаў старшыні, сакратара, з'явіліся ўтульная актавая зала для пасяджэнняў і ўрачыстых абрадаў, памяшканне для архіва, асобны пакой для ўчастковага інспектара, там жа размяшчаюцца грамадскі пункт аховы правапарадку і добраахвотная дружына. У адным будынку з сельсаветам размясціўся фельчарска-акушэрскі пункт. Варта адзначыць, што зараз усе сельсаветы раёна маюць у сваім распараджэнні службовыя легкавікі.**

Без авалодання сучаснымі метадамі працы, сучасным мысленнем немагчымы рух наперад. І гэта адносіцца да ўсіх, без выключэння сфер дзейнасці чалавека. Яшчэ да зусім нядаўняга часу самай галоўнай і важнай офіснай тэхнікай у сельсаветах з'яўлялася пішучая машынка. Цяпер – зусім іншая справа. Усе сельсаветы, у тым ліку і Дабейскі сельсавет Шумілінскага раёна абсталяваны сучаснай аргтэхнікай і офіснай мэбляй. На замену старой пішучай машынцы прыйшоў камп'ютэр са сканерам і прынтарам. У камп'ютэрах устаноўлены адмысловыя праграмы, якія дазваляюць весці гаспадарчы ўлік, працаваць з дакументамі ЗАГСу, апрацоўваць іншую дакументацыю. Забяспечаны сельсаветы і электроннай версіяй нарматыўнай базы. У прыватнасці, праграмай "Агат", якая дазваляе аператыўна працаваць з карткамі ўліку па адміністрацыйных правапарушэннях.

Старшыня Дабейскага сельвыканкама Ірына Шалахава была прызначана на пасаду яшчэ тры гады таму былым кіраўніком раёна Вальдэмарам Падляшчуком. Да гэтага яна працавала настаўніцай у Амбросавіцкай сярэдняй школе. Ірына Іванаўна ўпэўнена, што сельсавет з'яўляецца самым набліжаным да людзей органам мясцовай прадстаўнічай і выканаўчай улады. А вось староста вёскі, ці ўпаўнаважаны, альбо старэйшына, які непасрэдна жыве сярод сваіх аднавяскоўцаў і дакладна ведае ўсе тыя праблемы і нязручнасці, што хвалююць людзей і кожнага канкрэтнага чалавека ў дадзены момант , – самы першы і самы галоўны памочнік і дарадца яе. Выдатны старэйшына і ў аграгарадку Амбросавічы – Мікалай Паўлавіч Ліскоў. Патрэбы людзей у яго на першым месцы. Адна з праблем – транспартныя зносіны. Да прыкладу, рэйсавы аўтобус у Амбросавічы ездзіць не кожны дзень, і часам – толькі ў адзін бок. Вось і ходзіць старэйшына на прыёмы да начальства, каб дапамагчы сваім аднавяскоўцам.

Асабіста старшыням сельвыканкамаў таксама надалі больш паўнамоцтваў. Усё ж, выходзячы з той працы, зараз намнога працей прымаць рашэнні, абапіраючыся на новыя палажэнні ў заканадаўстве. Калі раней працэдура адабрання безгаспадарчых будынкаў, кінутых гаспадарамі была даволі складанай, то цяпер стала лягчэй сносіць струхлелыя пабудовы. Працэдура сносу спрошчана дзякуючы Указу 100 "Аб мерах па ўдасканаленні ўліку і скарачэнні колькасці пустуючых і старых дамоў у сельскай мясцовасці". Дарэчы, насупраць самога будынка сельсавета пустуе трохпавярховы дом. Мясцовая гаспадарка прыйшла ў заняпад, а камунгас не мае сродкаў на рэканструкцыю калгасных шматпавярховак, няма за што і знесці закінутыя дамы. Зразумела, падобныя краявіды ніяк не ўпрыгожваюць адміністрацыйны цэнтр сельвыканкама. А вось Дабейскі ФАП адпавядае ўсім сучасным патрабаванням. Прычым не толькі па аказанні медыцынскіх паслуг, але і вонкавым выглядзе, інтэр'еру.

Супрацоўнікі Дабейскага сельсавета жывуць у вёсцы разам з аднавяскоўцамі, добра ведаюць праблемы сваіх землякоў, таму бачаць рэальнае жыццё знутры, а не на паперы. Безумоўна, рэальнае ўспрыманне праблемы дамамагае больш аператыўнаму яе вырашэнню. І зусім не выпадкова па многіх паказчыках сельсавет займае лідзіруючае месца ў раёне. Напрыклад, па ліку асабістых падсобных гаспадарак. У мінулым годзе ад адной каровы дзяржаве здадзена ў сярэднім 3,8 тоны малака, амаль на 30% больш, чым у 2011-м. Многія трымаюць гаспадарку, некаторыя вялікую.

Праўда, моладзь не вельмі хоча абцяжарваць сябе клопатамі на асабістым падворку, а вось людзі сярэдняга ўзросту абзаводзяцца каровамі, свіннямі, курамі, авечкамі, гусямі, трусамі. Ёсць і пчаляры. А такія гаспадары, як Андрэй Бяззубенка з вёскі Могілеўка трымае 6 кароў. Ад продажу малака атрымлівае нядрэнныя грошы. З вяскоўцамі заключаюцца дагаворы контрактацыі, на падставе якіх людзі атрымліваюць збожжа і бясплатнае асемяненне кароў. Вядзецца актыўная работа па закупу цялят, малако збіраюць пастаянна. Калі гаспадар здае больш за 2 тон, яму бясплатна вылучаюць сена і салому. Акрамя матэрыяльных стымулаў, прадугледжаны і маральныя. Лепшыя малаказдатчыкі атрымліваюць граматы, падарункі ад кіраўніцтва.

Яшчэ адзін нямалаважны накірунак у рабоце Дабейскага сельсавета – навядзенне парадку на мясцовых могілках. Перш за ўсё правялі інвентарызацыю грамадзянскіх пахаванняў, а іх больш за 20. Пасля іх агляду пяць буйных могілак было перададзена на баланс Шумілінскага ЖКГ. Кожны год даводзяць да ладу ад двух да чатырох могілак. Прыбіраецца хлам, ўсталёўваюцца смецевыя бакі, выдаляюцца аварыйныя дрэвы, участак абносяць агароджамі.

Галоўнае – знайсці паразуменне з людзьмі. Сельсавет узяў на сябе клопат аб якасці жыцця насельніцтва. У сучасных умовах трэба шукаць альтэрнатыўныя крыніцы папаўнення бюджэта. Будзе больш грошай у сельсавеце - з'явіцца і больш магчымасцяў падтрымаць старых, адзінокіх людзей, інвалідаў, ветэранаў працы.

**Алесь Шумскі.**

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# СУСТРЭЛІ МАСЛЕНІЦУ

**17 сакавіка жыхары Дабеі весела, звонка, урачыста правялі зіму і з добрым настроем сустрэлі вясну. І хай у гэты дзень зіма праявіла свой характар – палохала цяжкімі аблачынамі, сыпала дробным сняжком, студзіла ветрам, усім было цёпла было ад шчырых усмешак, звонкіх песень, вясёлай гамонкі баянаў.**

Вяскоўцы танчылі, удзельнічалі ў гульнях, частаваліся блінамі.

Абрадавае свята ладзіла загадчыца Дабейскага сельскага клуба Аксана Леановіч. Самадзейныя артысты і ўдзельнікі фальклорных калектываў прадставілі яркае відовішча. Вясёлыя блазны ў стракатых касцюмах вадзілі карагоды, запрашалі прысутных і гасцей на забавы і конкурсы. Спаборнічалі дзве каманды Вясны і Зімы.

Мерапрыемства было пад назвай " З глыбінь вякоў у будучыню нашу". Праходзіла як раённы агляд-конкурс па зберажэнні і папулярызацыі народных святаў. Каб хутчэй прагнаць надакучлівую зіму, па традыцыі спальвалі пудзіла.

З даўніх часоў нашы продкі ўспрымалі вясну як пачатак новага жыцця. Славілі яны Сонца, якое дае жыццё і сілы ўсяму жывому – блін лічыўся сімвалам Сонца: такі ж жоўты, круглы і гарачы. І здаўна нашы продкі весела адзначалі Масленіцу – як час развітання з зімой і сустрэчы з вясной, якая нарэшце прынясе сонечнае цяпло і ажыўленне прыродзе.

НАША ЎЛАДА

# ЛУКАШЭНКА Ў ЭМІРАТАХ ТРОХІ АДПАЧЫВАЕ?

**Яшчэ 14 сакавіка Аляксандр Лукашэнка выправіўся на перамовы з Уладзімірам Пуцным у Пецярбург. Ад таго часу, па ўсёй імавернасці, яго яшчэ не было ў Беларусі.**

Прычым пасля па ўсіх мерках зацягнутых візітаў у Сінгапур і Інданэзію адбыўся нечаканы пералёт у Аб'яднаныя Арабскія Эміраты — папулярны зімовы турыстычны маршрут. Па стане на 26 сакавіка кіраўнік Беларусі заставаўся недзе на берагах Персідскай затокі.

На тое, што па дадзеным кірунку дзяржаўны інтэрас можа спалучацца з адпачынкам, сведчыць хоць бы і той факт, што Аляксандра Лукашэнку дагэтуль не прыняў кіраўнік Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў, прэзідэнт Халіфа ан-Нахаян. Сустрэў еўрапейскага госця толькі міністр унутраных спраў у рангу віцэ-прэм'ера, а таксама спадчынны прынц Мухамедон бэн Заід аль-Нахаян.

«Такое ўражанне, што ў Эміратах Аляксандр Лукашэнка праездам дахаты, — сказаў радыё «Свабода» палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі. — І не болей за тое. З Лукашэнкам яшчэ ж 80 чалавек разам. І гэта сведчыць пра тое, што Беларусьсю можна кіраваць дыстанцыйна. І, акрамя снежнай буры, у краіне нічога не здарылася», — іранізуе сп. Якаўлеўскі.

Натуральнай задачай азіяцкага турнэ бачыцца не толькі продаж беларускай прадукцыі — прычым, як паказвае прыклад М'янмы, вынік часта неадпаведны пакладзеным высілкам. Галоўнай задачай мог быць пошукінвестараў, гатовыхкупіць акцыі «Беларуськалія», МТС ці чагосьці іншага, прыдатнага для продажу ва ўмовах, калі краіне трэба знайсці дадатковыя сродкі для абслугоўвання замежнай запазычанасці. У 2013 годзе сумы выплат па замежным доўгу рэкордныя.

Беларускаму грамадству застаецца развесці рукамі і запытацца, чаму працоўны графік галоўнага чыноўніка краіны застаецца напаўпразрыстым.

**Мікола Бугай**
**«Наша Ніва»**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# НЕ ПАДМАНУЦЦА ПАСЛЯ ЛУКАШЭНКІ

**Выбары без Лукашэнкі з'яўляюцца абавязковай, але недастатковай умовай дэмакратызацыі ў Беларусі, мяркуе лідар Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч.**

25 сакавіка ў Мінску на канферэнцыі "Ідэалы БНР у цяперашні час" Мілінкевіч зазначыў, што апазіцыя "часта канцэнтруецца на рэжыме Лукашэнкі, але рэдка кажа, што будзе пасля яго". "Першыя незалежныя выбары пасля Лукашэнкі могуць канчаткова вырашыць лёс Беларусі. Але думаць, што пасля іх абавязкова ў краіне будзе дэмакратыя, не варта", — сказаў ён.

На думку палітыка, рэйтынг апазіцыі складае 20-30%. "Пасля сыходу з улады Лукашэнкі грамадства будзе расколата. Яно можа паверыць не толькі дэмакратычнаму праеўрапейскаму кандыдату ў прэзідэнты, але і прарасійскаму, які будзе абяцаць танны газ і рост зарплат. На фоне крызісу людзі будуць у першую чаргу думаць пра свае кішэні", — сказаў ён.

Лідар Руху "За Свабоду" мяркуе, што апазіцыі неабходна ясна ўсведамляць сваю адказнасць на выбарах, таму што "падзеі будуць развівацца дастаткова хутка".

Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў са шкадаваннем зазначыў, што беларускае грамадства "ўспрымае апазіцыю толькі ў тым плане, што яна супраць Лукашэнкі". "Апазіцыя не асацыюецца з тым, за што яна выступае. Наша памылка заключаецца ў тым, што мы не можам данесці сваю пазіцыю да насельніцтва ў той частцы, за што выступаем", — заявіў ён.

**БелаПАН**

ЗАМЕЖНЫЯ ПАЕЗДКІ

# ЧАКАЕМ МЬЯНСКІ ВАРЫЯНТ?

**Беларусь прадала ў М'янму 1000 фламастэраў, 4 скрыні гарэлкі і 6 трактароў. І гэта пасля візіту беларускай дэлегацыі, які «перасягнуў усе чаканні».**

Афіцыйныя СМІ падлічылі эканамічны эфект ад сустрэчы кіраўніцтва Беларусі і Інданезіі - 400 мільёнаў даляраў. Амаль тое ж самае казалі пасля паездкі прэм'ера Міхаіла Мясніковіча ў М'янму:

"Падпісаны шэраг міжнародных і міжурадавых пагадненняў. Заключаны новыя кантракты на пастаўку тавараў на агульную суму больш за 200 мільёнаў даляраў. Сярод галоўных кірункаў - пастаўка калійных угнаенняў, аўтатэхнікі, шын, камплектуючых ..."

Мінсельгасхарч распавёў Еўрарадыё пасля гэтага візіту, што жыхары М'янмы пыталіся, што такое хлеб і ці можна яго есці. Што ж, пыталіся пра хлеб - мы паставілі ім хлеб. У 2012 годзе М'янма купіла ў нас хлеба на 100 даляраў.

Што яшчэ мы прадаем у гэтую краіну? Адказ знаходзім на сайце Белстата ў справаздачы па экспарту за 2012 год.

На 1000 долараў мы прадалі туды рознага шакаладу, яшчэ печыва на 100 даляраў, на 200 даляраў гарэлкі - гэта 3-4 скрыні, і на такую ж суму іншых моцных напояў. А таксама 3 валізкі - можа, іх выкарыстоўвалі для перавозкі?

На 1200 доляраў прадалі друкаванай прадукцыі, 400 каляндарыкаў, скуранога абутку - на 4200 даляраў, яшчэ тысячу фламастэраў і столькі ж шарыкавых ручак.

Колькі ж прадалі аўтатэхнікі? 6 трактароў за 56 тысяч даляраў. А шын і камплектуючых на 3 тысячы.

Усяго прадукцыі ў Белстата налічылі на 100 тысяч даляраў.

**Віталь Ругайн**
**Еврорадио**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ААН ПАДТРЫМАЛА БЯЛЯЦКАГА

**У сёньняшняй рэзалюцыі Рада ў правах чалавека ААН асудзіла практыку крымінальнага пераследу праваабаронцаў з-за крыніц паходжаньня іх фінансаваньня.**

«Гэтамоцныйсыгналпадтрымкі ад ААН праваабаронцам ва ўсім сьвеце, якім не дазваляюць атрымліваць фінансаваньне, якіхпазбаўляюцьлегітымнасьці і супраць якіх узбуджаюць крымінальныя справы за іх праваабарончую дзейнасьць» – пракамэнтавала рэзалюцыю Сугайр Бэльхасэн, старшыня Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека.

У прэс-рэлізе з нагоды гэтай рэзалюцыі міжнародныя праваабаронцы падкрэсьліваюць, што яна мае непасрэднае дачыненьне да справы Алеся Бяляцкага, якога, паводле заключэньня Працоўнай групы ААН у справе неабгрунтаваных затрыманьняў, асудзілі ў Беларусі ў парушэньне міжнародных абавязаньняў краіны ня ўмешвацца ў фінансаваньне дзейнасьці недзяржаўных праваабарончых арганізацый.

Рэзалюцыю прапанавала Нарвэгія, да якой далучыліся 62 іншыя краіны. Рэзалюцыя была прынятая шляхам кансэнсусу.

**Радыё Свабода**

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

# ЗАКЛІК ДА САНКЦЫЯЎ СУПРАЦЬ «БЕЛАРУСЬКАЛІЮ»

**Кіраўнік праваабарончай арганізацыі Freedom House заклікаў да санкцыяў у адносінах да «Беларуськалію» і іншых беларускіх канцэрнаў, каб прымусіць Менск вызваліць палітвязьняў.**

Заява прагучала на сэмінары «Амэрыкана-беларускія адносіны: правы чалавека і дыпламатыя», які прайшоў у Джорджтаўнскім унівэрсытэцеў Вашынгтоне 25 сакавіка.

Дэйвід Крэймэр заявіў, што рэжым Лукашэнкі працягвае гандляваць зброяй з краінамі-ізгоямі і парушаць фундамэнтальныя прававыя прынцыпы дэмакратычнай дзяржавы, аднак у арсэнале ЗША і Эўразьвязу яшчэ ёсьць нявыкарыстаныя мэтады ціску на беларускія ўлады дзеля таго, каб тыя выпусьцілі з беларускіх турмаў 11 палітычных зьняволеных і правялі ў краіне дэмакратычныя пераўтварэньні.

Адной з такіх мер узьдзеяньня, паводле кіраўніка Freedom House, можа стаць накладаньне эканамічных санкцыяў на буйныя беларускія канцэрны, у прыватнасьці, на «Беларуськалій».

«Бясспрэчна, прадпрыемства „Беларуськалій“ — адно зь іх. Тым ня менш Эўрапейскі Зьвяз таксама павінен перагледзець свае гандлёвыя адносіны зь Беларусьсю ў цэлым, таму што павелічэньне аб'ёму гандлю падрывае эфэкт санкцыяў, уведзеных самім жа ЭЗ. Эўразьвяз зрабіў выдатную працу, што тычыцца санкцыяў, аднак гандаль зь Беларусьсю, гэта значыць — з Лукашэнкам, адбіваецца на эфэктыўнасьці зробленых захадаў».

На думку Крэймэра, Лукашэнка становіць пагрозу ня толькі дэмакратычнаму разьвіцьцю сваёй уласнай краіны, але і міжнароднай супольнасьці, бо ягоны рэжым працягвае пастаўляць зброю ў недэмакратычныя дзяржавы:

«Лукашэнка прадае зброю рэжымам-ізгоям. Існуюць асьцярогі адносна нарошчваньня Беларусьсю збройных арсэналаў, нягледзячы на тое, што краіна адмовілася ад сваіх запасаў ядзернай зброі пасьля распаду Савецкага Саюзу. Мне здаецца, мы павінны быць занепакоеныя адносна таго, што мадэль Беларусі пад кіраўніцтвам Лукашэнкі можа быць узятая за прыклад у іншых краінах. Гэта значыць, што яго рэжым пагражае ня толькі тым, хто жыве ўнутры краіны, але і за яе межамі».

Між тым дырэктар Эўрапейскага аддзелу пры Бюро па пытаньнях дэмакратыі, правоў чалавека і працы Дзяржаўдэпартамэнту ЗША Майкл Уехара, які таксама прысутнічаў на мерапрыемстве, заявіў «Голасу Амэрыкі», што ў сувязі з сытуацыяй, якая склалася, урад ЗША паставіў перад рэжымам Лукашэнкі шэраг простых умоў: «У адносінах зь Беларусьсю абставіны склаліся так, што рэпутацыя беларускіх уладаў настолькі дрэнная, што мы вылучылі шэраг умоў, згодна зь якімі Беларусь павінна пачаць адпавядаць некаторым патрабаваньням, перш чым зь ёй будзе ўсталяваны дыялёг. Беларускія ўлады ведаюць пра тое, чаго мы ад іх чакаем, ведаюць нашы ўмовы. Як толькі яны будуць выкананыя, мы зноў зможам пачаць нармальны дыялёг. Беларусь — адзіная краіна, у якой з-за патрабаваньняў мясцовых уладаў мы былі вымушаныя зьнізіць колькасьць супрацоўнікаў нашай амбасады. У нас нават няма амбасадара ў гэтай краіне, а мець нармальны дыялёг пры адсутнасьці амбасадара адной з краін вельмі складана».

Уехара таксама заўважыў, што з прыходам Джона Кэры на пасаду дзяржсакратара палітыка ЗША ў дачыненьні да Беларусі ня зьменіцца:

«Злучаныя Штаты пасьлядоўна заклікалі ўрад Беларусі правесьці ў краіне зьмены ў галіне правоў чалавека, пашырыць палітычную прастору, а таксама ўзмацніць сыстэму стрыманьняў і процівагаў ва ўладзе. З прыбыцьцём Джона Кэры ў Дзяржаўдэпартамэнт палітыка ЗША ў дачыненьні да Беларусі застанецца бязь зьменаў».

**Радыё Свабода**

НАША СПАДЧЫНА

# ДЗЕЯЧЫ БНР БЫЛІ ДЭМАКРАТЫ

**Напярэдадні Дня Волі гісторык і даследчык Беларускай Народнай Рэспублікі Анатоль Сідарэвіч распавеў Еўрарадыё пра тое, хто стварыў беларускую дыпламатыю, чаму ў Маскве дзівіліся наяўнасці белага хлеба ў сталіцы БНР і як свята 25 сакавіка адзначалі нават камуністы.**

**- Гэта праўда, што паўнамоцтвы ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі прызнавалі нават бальшавікі?**

- Так, бальшавікі лічылі яе спраўднай дзяржавай. У рашэнні свайго цэнтральнага камітэта яны неяк пісалі, што "трэба дамагчыся, каб паўнамоцтвы ўрада БНР былі перададзеныя ўраду БССР". Значыць бальшавікі прызнавалі за ўрадам БНР паўнамоцтвы.

- На якія структуры ў рэгіёнах Беларусі абапіралася БНР?

- БНР абапіралася на беларускія рады, якія працавалі ў Магілёве, Гродне, Ваўкавыску, іншых гарадах. Вельмі знакамітая Слуцкая рада, якая ў 1920-м падняла антыбальшавіцкае паўстанне. Гэта былі сялянскія і работніцкія рады. А вось у Койданаве рада нават абвесціла незалежную рэспубліку.

**- Цяпер можна пачуць, калі беларускія чыноўнікі ці нават і афіцыйныя даследчыкі кажуць, што БНР не дамаглася ніякіх вынікаў. Якія ж сапраўды былі дасягненні органаў улады БНР?**

- Адно з іх — БНР стварыла беларускую дыпламатыю! (Анатоль Сідарэвіч паказвае кнігу, што ляжыць на ягоным стале — "Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў. 1914 — 1991 год".)

- Выйшаў першы том пад рэдакцыяй міністра замежных спраў Сяргея Мартынава. І вось у гэтым томе змешчаныя дакументы БНР.

Таксама БНР стварыла беларускае казначэйства, беларускую гандлёвую палату, якая паспяхова гандлявала ў 1918-м годзе з Украінай.

-Калісьці прыйшлі бальшавікі, па Маскве разнесліся чуткі, што ў Мінску ёсць белы хлеб! Але прайшлі 2 тыдні пасля прыходу бальшавікоў і белы хлеб знік, а за ім пачаў знікаць і чорны...

**- Спадар Анатоль, а як людзі, жыхары Беларусі адносіліся да БНР?**

- Вось я маю перад сабой два тамы зборніка дакументаў "Архівы БНР". Паглядзіце колькі тут лістоў ад людзей да ўрада БНР. Людзі звярталіся ў розных справах і атрымлівалі дапамогу. Вось беларусы з Моўчадзі (гэта каля Баранавічаў) просяць кіраўніцтва БНР прыслаць ім настаўніка, які б выкладаў у школе беларускую і нямецкую мовы, ды абяцаюць плаціць яму заробак са сваіх грошай.

Паводле слоў Анатоля Сідарэвіча, у БНР было роўнае стаўленне да нацыянальных меншасцяў. У 2-й устаўной грамаце Рады БНР была абвешчаная роўнасць моваў народаў БНР, а ва ўрад былі ўведзеныя прадстаўнікі яўрэяў, расіян, палякаў.

**- А ці ведалі пра Беларускую Народную Рэспубліку ў свеце?**

- Прэм'ера БНР Антона Луцкевіча прымаў прэзідэнт Чэхіі Тамаш Масарык, тройчы прымаў начальнік Польскай дзяржавы Язэп Пілсудскі. БНР прызналі Фінляндыя і Эстонія. Наша вайскова-дыпламатычная місія дзейнічала ў Рызе. Была падпісана дамова аб ўзаемным прызнанні з Літвой. Ураду БНР даваў дзяржаўныя пазыкі ўрад Украіны. Консул БНР Алесь Бурбіс прадстаўляў, дарэчы, абсалютна легальна, інтарэсы беларускай дзяржавы ў Маскве. БНР не толькі ведалі, але і рэагавалі!

**- Можна нярэдка пачуць, што, каб не было БНР, не было б БССР…**

- Нават камісар Рэйнгальд, сябра першага ўрада БССР, казаў, што "калі б не было беларускай рады (гэта значыць рады БНР), то не было б БССР".

**- Але савецкая традыцыя шальмавання ўсяго, што звязана з першай спробай здабыцця беларускай дзяржаўнасці ў ХХ стагоддзі, жывеі сёння, ужо ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь?**

- Бальшавізм характэрызуе непрымірымасць да іншадумцаў, да іншых класаў, да іншых рэлігій і ідэялогій. Да гэтага часу людзі не могуць пазбыцца гэтага. Думаць не вузка-групавымі, вузка-сацыяльнымі, а думаць нацыянальнымі інтарэсамі людзі не умеюць. І не хочуць! Яны наўмысна дзеляць грамадства на "сваіх" і "чужых".

Цяперашнія ўлады не могуць маўчаць пра 25 сакавіка, але і адкрыта не кажуць, і не прызнаюць. Анатоль Сідарэвіч нагадвае, што дагэтуль у Мінску няма вуліцы першага прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі Ўсевалада Ігнатоўскага. Няма вуліцы, якая б насіла імя людзей, што сталіся бацькамі беларускай дзяржаўнасці — братоў Івана і Антона Луцкевічаў. Мала таго, на тым месцы дзе калісьці стаяў дом Луцкевічаў у сталічным Купалаўскім парку вырашана пабудаваць… рэстаран.

( у скарачэнні)

**"Еўрапейскае радыё"**

СПАЖЫВЕЦКІ РЫНАК

# ЯКАЯ ЯНА - БЕЛАРУСКАЯ «ТАННАСЦЬ»?

**«Мы сёння накармілі свой народ, і кошты ў нас значна ніжэй, чым у Расіі і Украіне, у Еўрасаюза, навакольных дзяржаў - значна ніжэй», - заявіў кіраўнік Беларусі ў інтэрв'ю Russia Today. Эканаміст Леанід Заіка, у сваю чаргу, тлумачыць: якая яна - беларуская «таннасць».**

Зусім нядаўна Галоўнае статыстычнае ўпраўленне сталіцы паведаміла, што толькі на прадукты харчавання мінскія сем'і марнуюць 42,4% свайго даходу - амаль палову сямейнага бюджэту.

Цяпер параўнаем менскія і еўрапейскія кошты - рэпартажы на гэтую тэму з'яўляюцца ў беларускіх СМІ ў апошні час рэгулярна.

Літва. Кілаграм свініны ў Вільні, у пераліку на айчынную валюту, каштуе прыкладна 40.000 беларускіх рублёў, у той час як у Менску цана складае 65.800 рублёў. Кілаграм памідораў у Вільні каштуе прыблізна 23.000. У беларускай сталіцы за кіло таматаў прыйдзецца заплаціць прыкладна 46.000, піша Onliner.by.

Кіло цвёрдага літоўскага сыру стаіць у Вільні 63.300, а ў Мінску за гэты ж вага трэба раскашэліцца на 79.000. Нават бульба ў Вільні і тая танней: кілаграм каштуе 2.600 рублёў (на мінскай Камароўцы яе прадаюць за 3.000).

Польшча. Што тычыцца коштаў на прадукты харчавання ў польскім Беластоку і Мінску, то і тут параўнанне не на карысць беларускай сталіцы. Кілаграм свініны ў Польшчы каштуе каля 40 тысяч у пераліку на беларускія рублі (мінская кошт указана вышэй). 200 грам молатай кавы - каля 30.000 (супраць ўпакоўкі вагой у 250 грамаў, якая ў Мінску абыдзецца ў 120.000), адзначае TUT.BY.

... Параўнальны шэраг можна працягваць, і гэта толькі прывядзе да высновы аб тым, што пры беларускіх заробках, якія значна ніжэй еўрапейскіх, нашы суайчыннікі плацяць за некаторыя асноўныя прадукты ў разы больш, чым еўрапейцы.

«Мы не паедзем у Вільню ці Варшаву»

- Гэта нават не папулізм - гэта спроба супакоіць насельніцтва, якое і так усё бачыць і разумее, - сказаў у экспрэс-каментары для «Салідарнасці» эканаміст Леанід Заіка. - Наколькі яна ўдалая? Каб зразумець, наколькі ў Беларусі «танныя» прадукты харчавання, я бы прапанаваў Аляксандру Рыгоравічу куды-небудзь са мной з'ездзіць. Мы не паедзем у Вільню ці Варшаву. Мы паедзем у Калінінград, дзе кілаграм свініны ў пераліку на беларускія рублі каштуе 4 даляра. А што ў Мінску? Правільна, кіло гэтай самай свініны каштуе 8-10 далараў.

Не буду вас стамляць эканамічнай тэорыяй. Толькі скажу, што беларусу для таго, каб зарабіць на кіло мяса, трэба працаваць даўжэй, чым літоўцу або паляку. Гэта відавочна.

Тэзіс пра тое, што нехта там «накарміў народ», не тое каб сумніўны, - мінімум спрэчны. Праверыць гэты тэзіс таксама лёгка. Прапаную Аляксандру Рыгоравічу па восені наведацца на дачныя ўчасткі беларусаў. Можна ўзяць з сабой мегафон і расказваць: «Беларусы, мы вас накармілі». Я думаю, што гнаць чалавека з мегафонам гэтыя дачнікі будуць да самай мяжы. Таму што народ, каб неяк перазімаваць, прывык карміць сябе сам, нешта вырошчваць. Гэта зноў жа - з-за беларускай «таннасці».

**Віталь Гарбузаў**

**gazetaby.com**

АСАДЗІ НАЗАД!

# КРЫМІНАЛЬНАЙ СПРАВЫ СУПРАЦЬ ARCHE» НЕ БУДЗЕ

**У завядзенні крымінальнай справы па выніках праверкі ўстановы «Рэдакцыя часопіса „Архэ-Пачатак“» адмоўлена.**

Такую інфармацыю паведаміў 22 сакавіка бухгалтару ўстановы Алене Казловай адвакат, які прадстаўляе інтарэсы рэдакцыі.

Супрацоўнік Упраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў па Мінску і Мінскай вобласці Камітэта дзяржкантролю, адказны за праверку дзейнасці ўстановы «Рэдакцыя часопіса „Архэ-Пачатак“», паведаміў, што не ўпаўнаважаны выказвацца на гэтую тэму. У прэс-цэнтры КДК сказалі, што пакуль не валодаюць інфармацыяй на гэты конт.

Калі інфармацыя адпавядае рэчаіснасці, то рахунак установы, які быў заблакаваны з 4 кастрычніка мінулага года, павінен быць разблакаваны.

Нагадаем, што праблемы ў часопіса пачаліся 14 верасня 2012 года з затрымання былога галоўнага рэдактара «Arche» Валера Булгакава.

Супрацоўнікі міліцыі і падатковай інспекцыі затрымалі яго ў Гродне на прэзентацыі кнігі Я. Шумскага «Саветызацыя ЗаходнякБеларусі» і абвінавацілі ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці.

21 верасня супрацоўнікі ўпраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў (УДФР) прыйшлі ў друкарню, дзе выдаваўся часопіс, з праверкай. 24–28 верасня з друкарні былі забраныя ўсе дакументы за апошнія два гады дзейнасці часопіса. 2 кастрычніка было арыштавана больш за 5 тысяч асобнікаў кніг з асабістай калекцыі Булгакава.

4 кастрычніка ва УДФР быў выкліканы заснавальнік часопіса «Arche» Андрэй Дынько. Пасля гэтага было прынята рашэнне вызваліць Булгакава ад пасады галоўнага рэдактара «Arche», каб выратаваць выданне. У межах праверкі дзейнасці рэдакцыі Упраўленне ДФР па Мінскай вобласці і г. Мінску вынесла прадпісанне прыпыніць аперацыі па рахунках «Arche-Пачатак», — нагадвае ГА «БАЖ».

Хадайніцтва ГА «БАЖ» аб разблакаванні рахунку рэдакцыі часопіса Дэпартамент фінансавых расследаванняў адхіліў, спасылаўшыся на непрадастаўленне шэрагу патрэбных дакументаў. Прадстаўнікі рэдакцыі, са свайго боку, называюць гэтыя прэтэнзіі беспадстаўнымі.

18 кастрычніка Валер Булгакаў за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць быў аштрафаваны на 500 тысяч рублёў. У пачатку лістапада Булгакаў пакінуў Беларусь, асцерагаючыся крымінальнага пераследу.

**baj.by**

# СПРАВА СУПРАЦЬ ПАЧОБУТА РАЗВАЛІЛАСЯ

**Упраўленне Следчага камітэта Беларусі па Гродзенскай вобласці завяршыла расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да журналіста польскага выдання «Gazety Wyborczej» Андрэя Пачобута, абвінавачанага ў паклёпе на Лукашэнку.**

«Упраўленнем Следчага камітэта Беларусі па Гродзенскай вобласці завершана расследаванне крымінальнай справы, узбуджанай па ч.2 ст.367 КК Рэспублікі Беларусь (паклёп у дачыненні да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, здзейсненая асобай, якую раней судзілі за паклёп) у дачыненні да Пачобута А.С." , — паведамілі агенцтву «Інтэрфакс-Захад» у групе інфармацыі і сувязі з грамадскасцю ўпраўлення СК па Гродзенскай вобласці.

«У сувязі з тым, што высновы лінгвістычных экспертыз разыходзяцца, а ў часе папярэдняга следства не здабыта аб'ектыўных дадзеных, якія пацвярджаюць здзяйсненне Пачобутам дадзенага злачынства, 15 сакавіка 2013 вынесена пастанова аб спыненні папярэдняга расследавання ў сувязі з недаказанасцю ўдзелу абвінавачанага ў здзяйсненні злачынства. Згодна з гэтай жа пастановы абраная ў дачыненні да Пачобута мера стрымання ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе і належных паводзінах адменена «, — удакладнілі ў СК.

«Я даведаўся пра гэта сёння, а 19.04, — расказаў НН Андрэй Пачобут. — Пра закрыццё маёй справы напісаў „Інтэрфакс“, пасля ўжо адвакат званіў у Следчы камітэт, дзе сказалі, што мне яшчэ высланае афіцыйнае паведамленне аб гэтым, якое я яшчэ атрымаю». Закрыццё сваёй справы журналіст ацэньвае як палітычнае рашэнне, прынятае пасля таго, як яго не ўдалося прымусіць з'ехаць з краіны: «Мяне тады дэманстратыўна арыштавалі, хоць я быў толькі падазраваны, азнаёмілі з вынікамі экспертызы, з якіх адназначна вынікалі і паклёп, і знявага, і многае іншае. Калі б пасля вызвалення пад падпіску я захацеў рушыць куды-небудзь у бок Масквы, мне б, думаю, яшчэ далі эскорт, каб ніхто не спыніў».

Эксперту, на высновах якога грунтавалася абвінавачанне (а гэта дзяржаўны ідэолаг Кізіма), апраўданы Пачобут не мае чаго сказаць: «Гэта марыянеткі, яны кажуць тое, што ім загадаюць».

Пачобут пэўны, што закрыццё яго справы будзе пададзенае беларускімі ўладамі як «станоўчы жэст у бок Захаду».

* * *

Нагадаем, карэспандэнта арыштавалі ў чэрвені 2012 года, але пасля выпусцілі пад падпіску аб нявыездзе. Андрэя Пачобута абвінавацілі ў паклёпе на Лукашэнку. Падставамі для абвінавачвання сталі артыкулы Пачобута на сайтах charter97.org і «Беларускі партызан». Яму пагражала пазбаўленне волі на тэрмін да 5 гадоў. Пачобут быў прызнаны вязнем сумлення.

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 30.03.2013 у 12.40.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.